# ІСКРЫ ІЛЬІЧА



1870—1924

1934 студзень № 1

Іскры Ільіча

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ

СТУДЗЕНЬ 1934

№ 1

# ВЯЛІКІ ПРАВАДЫР

Кожную гадзіну ў Маскву прыбываюць перапоўненыя цягнікі. Многа народу прыяжджае сюды. Адны — на з'езд, другія — вучыцца, трэція—на работу, чацьвертыя—па розных справах. Але, як-бы не быў заняты чалавек, трапіўшы ў Маскву, ён спяшаецца на Красную плошчу. Там з трох гадзін да шасці заўсёды стаіць доўгі ланцужок людзей.

Падыдзе новы чалавек, запытае:

— Куды стаіцё, таварыш, к Леніну?

— Але, к Леніну.

Ланцужок людзей павольна падыходзіць к маўзалею. Потым па ўсходцах усе апускаюцца ўніз. Там, у труне, пад шклом ляжыць цела Леніна. Два вартаўнікі ахоўваюць яго супакой. Бесперапынным патокам ціха праходзяць людзі. Кожнаму дорага глянуць на Леніна.

Праз другія дзверы людзі выходзяць зноў на Красную плошчу. Выходзяць з думкамі аб Леніне. Ідуць яны кожны па сваіх справах: хто на з'езд, хто на вучобу, хто на работу. Кожны ідзе прадоўжваць тую справу, якую пачаў Ленін.



★

Ленін пражыў 54 гады. Але за гэты час ён так многа зрабіў, як ніхто.

Пачаў ён працаваць у трудныя часы... У Расіі тады былі—цар, памешчыкі, капіталісты. Рабочым і сялянам жылося вельмі дрэнна. Ленін з маладых год пайшоў супроць цара і багацееў. Ён гаварыў:

— Трэба скінуць цара, адабраць зямлю і фабрыкі ад памешчыкаў, фабрыкантаў. Будзем будаваць новае жыццё — соцыялізм.



У той час гэтыя словы були вельмі смелымі. Царскія шпіёны пачалі сачыць за маладым Леніным. А ён пайшоў к рабочым, вучыў іх, як трэба змагацца. Усё жыццё Ленін клапаціўся толькі аб рабочых і сялянах. Яго і ў турму саджалі, і ў Сібір высылалі, а ён усё сваё.

Немагчыма ўрэшце стала працаваць Леніну ў Расіі. Тады ён выехаў заграніцу. Пачаў кіраваць адтуль.

Ленін рашыў:

— Нельга скінуць цара, калі змагацца ў адзіночку. Трэба згуртавацца. Трэба стварыць партыю. У рабочых павінен быць моцны кіраўнік—свая партыя.

І вось Ленін пачаў ствараць комуністычную партыю (большэвікоў). Падбіраў лепшых людзей, бо работа ў партыі была небяспечная. Пачне чалавек працаваць, а яго ў турму садзяць. Усе старыя большэвікі па шмат разоў бывалі ў турмах і ссылках.

★

З далёкіх краін Ленін кіраваў рускімі рабочымі. Для гэтага Ленін арганізаваў выданне газеты „Искра". У газеце ён вучыў: „Рабочыя, пачынайце рэволюцыю, змагайцеся дружней. Заключайце саюз з сялянамі".

Прысылалі „Искру" у Расію ў скрынках з падвойнымі днамі, у розных пасылках, у кніжных пераплётах. Друкавалася газета на тонкай паперы, каб лягчэй было перасылаць. Тых, каго лавіла паліцыя з большэвіцкімі газетамі, саджалі ў турму.

Ільіч часта ночы не спаў, пісаў у газету, пісаў пісьмы рабочым, а рабочыя пісалі яму. З усіх канцоў Расіі ішлі да яго пісьмы.

★

Жыў Ільіч далёка, а ведаў усё, што робіцца ў Расіі і радаваўся:

— Растуць нашы сілы, расце партыя!

З „Искры" разгарэлася полымя. У 1905 годзе рабочыя і сяляне падняліся на цара і памешчыкаў. Ленін тады адразу паехаў у Расію, у Піцер*), бліжэй да рабочых. Ён цэлымі днямі хадзіў па заводах, згуртоўваў рабочых. Прыходзілася жыць Леніну пад

*) Так называлі рабочыя цяперашні Ленінград.

чужымі прозвішчамі, бо царскія шпіёны сачылі за ім. І ўсё-ж такі, не гледзячы на пагрозы, усюды чуваць быў ленінскі голас:

— Таварышы, бярыцеся за зброю!

У рабочай крыві затапілі царскія генералы паўстанне ў 1905 годзе. Але моцна верыў Ленін у сваю справу. Ён гаварыў:

— Рэволюцыя не загінула. Перамога будзе за намі.

Па-зверску стаў расправуляцца царскі ўрад з рэволюцыйнымі рабочымі. Насталі чорныя годы. Леніну зноў немагчыма стала працаваць у Расіі. І неўзабаве ён выехаў заграніцу.

★

Ільіч верыў у рэволюцыю. А з тымі, хто ішоў супроць рэволюцыі, Ленін вёў барацьбу. Ён патрабаваў: „партыя павінна быць жалезнай, хто не верыць у нашу справу, той супроць нас".

Многа было перашкодаў, але рэволюцыя ішла. Ленін упарта рыхтаваў яе.

А як толькі ў Расіі ў 1917 годзе пачалася рэволюцыя, як скінулі цара, Ленін зноў, радасны, прымчаўся ў Расію. Як роднага, сустрэлі яго рабочыя.

— Ленін прыехаў! Ленін прыехаў!—перадаюць адзін другому рабочыя па ўсіх заводах. А Ільіч гэтым часам выступае ўсюды, заклікае:

— Цара скінулі. Цяпер трэба прагнаць памешчыкаў і капіталістаў. Зямля—сялянам, фабрыкі—рабочым. Уся ўлада—советам!

Па яго закліку ў кастрычніку 1917 года падняліся ўсе рабочыя, усе беднякі, уся армія. Усё жыццё сваё Ленін імкнуўся да гэтага. Ён выступіў тады на з'ездзе Советаў і сказаў: „Ад сёнешняга дня на зямлі пакладзен пачатак новага жыцця".

Леніна выбралі першым старшынёю Совета Народных Камісараў.

★

Пачалася грамадзянская вайна. Голад і разруха не давалі жыцця першай краіне рабочых і сялян. Але Ленін упэўнена прывёў краіну да перамогі.

Скончылася вайна. Пачалося будаўніцтва соцыялізма. Сталі адбудоўвацца заводы, фабрыкі, будавацца новыя. Але цяжкая хвароба падкасіла Ільіча. 21 студзеня 1924 года Ленін памёр.

Леніна не стала. Але засталіся ленінцы, мільёны ленінцаў: ленінская партыя, ленінскі комсамол, ленінскія піонеры і акцябрата. Усе яны робяць тую справу, за якую аддаў жыццё Ільіч. Рабочыя, калгаснікі і працоўныя пад кіраўніцтвам партыі і лепшага ленінца, любімага свайго правадыра т. **Сталіна**, з поспехам будуюць соцыялізм.

★

На зямлі гавораць на 600 мовах. Ні адзін чалавек не ведае іх усіх. Але паедзе хто ў любы куточак зямлі і скажа толькі адно слова—Ленін, — і яго зразумеюць адразу. Пра Леніна ведаюць ва ўсім свеце і старыя, і дзеці, вялікія і маленькія. Для буржуеў імя Леніна—страх, для працоўных—заклік да барацьбы. Імя Леніна стала сцягам усіх прыгнечаных.



# ЯНА ЛЕПШАЯ УДАРНІЦА

АЛ. ПАЛЬЧЭЎСКІ

Невялікай, жвавай Лілі Пекельнай толькі 10 год. З года ў год яна, як па ўсходцах, пераходзіць з групы ў групу. Сёлета Ліля ў 3-В групе. У гэтай групе 38 вучняў. І ўсе яны лічаць сваю таварышку Лілю найлепшаю ўдарніцай.

Чым-жа Ліля заслужыла такое званне? Чаму настаўніца Рыбакова, калі яе запытаеце: „хто лепш вучыцца ў вашай групе?“—адразу адкажа:

— Ліля Пекельная.

А Ліля гэтым часам пачырванее, трошкі засаромеецца і паціху скажа:

— Мне здаецца, я вучуся так, як трэба кожнаму з нас вучыцца.

І сапраўды, Ліля вучыцца так, як трэба вучыцца кожнаму вучню. Па ўсіх прадметах у яе „вельмі добра“. За ўвесь час вучобы яна не мела ніводнага прагула, ніводнага спазнення. А гэта многа, многа значыць у вучобе!



ЛІЛЯ ПЕКЕЛЬНАЯ.

Пра свае поспехі Ліля вось што піша ў насценгазеце:

*„... Усе школьныя заданні я стараюся падрыхтаваць як мага лепей. Калі што ведаю дрэнна, дык яшчэ раз прачытваю, разбіраюся, як след.*

*На занятках у школе я сяджу ціха і слухаю ўважліва, што гаворыць настаўніца. Дома перш за ўсё рыхтую школьныя заданні, а потым, у вольны час, чытаю цікавыя кніжкі, гуляю на двары.*

*Добра падрыхтаваўшы свае ўрокі, я складваю ў сумку патрэбныя на заўтрашнія заняткі кніжкі, сшыткі, карандаш, ручку. А назаўтра рачіцаю паснедаю і скоранька іду ў школу. Таму я ніколі не пазнюся на заняткі“.*

Ліля Пекельная не толькі сама добра вучыцца, яна стараецца дапамагаць слабейшым, тым, хто адстае. У групе не хапае падручнікаў па грамадазнаўству, займацца прыходзіцца некалькім вучням разам. Ліля брыгадзірам у адной з такіх брыгад. Тое, што яна добра ведае — перадае другім, растлумачвае.

Піша Ліля без памылак, бо яна ўважліва слухае, як вымаўляе настаўніца дыктоўку. А пры чытанні прыглядаецца, як тое ці іншае слова напісана ў газеце, у часопісі. І новы правапіс Ліля засвоіла скора. Цяпер нават другім на памылкі паказвае. Вось сусед Ліні піша слова сцяг з мяккім знакам пасля літары *с*, і яна не можа ўтрымацца, каб не сказаць:

— На што ты пішаш мяккі знак у слове „сцяг“? Ен тут зусім не патрэбен. Гэта раней так пісалі.

Есць у Пекельнай і грамадская нагрузка. Яна старшыня класкома, а таксама член вучкома. Са сваімі абавязкамі Ліля спраўляецца добра.

Часопісь „ІСКРЫ ІЛЬІЧА“ і газету „Піонер Беларусі“ Ліля выпісвае пастаянна. Бо яны, як кажа Ліля, дапамагаюць ёй у вучобе.

Такія ўдарніцы вучобы, як Ліля Пекельная—прыклад для другіх вучняў.

Г. МАГІЛЁЎ, 14-Я ШКОЛА.

Якуб Колас




# Міхасёвы прыгоды

Малюнкі В. Тіхановіча

I.

Надакучыла дзецям зіма:
Ім разгону зімою няма.
Маркотна Міхáсю,
Алесю і Ясю,
Валодзю, Андрэю
І ўсім, хто дурэе
І хоча разгону—
Ну, Юрку, Сымору,
Марынцы, Тацянцы,
Аленцы, Мар'янцы
І Інцы і Юльцы,
Натальцы, Ганульцы,
Ну, словам, дзяўчатам
І хлопцам, тым хватам.



Сагналі ахвоту на санках,
На лыжах, каньках і лядзянках.
Зімою забавы
Не дужа цікавы:
Марозы, завеі,
І нос пасінее,
Чуць выскачыш з хаты
На холад зацяты.
Хваробы зімою
Ідуць чарадою:
То свінка, ангіна,
Адзёр, шкарлятына,
І той біч-жываглыт,
Люты, злы дыфтэрыт.
Надакучыла дзецям зіма,
І чакае вясны іх гурма.

II.

Налучыла зімою Міхáся бяда,
Захапіла Міхáся хвароб чарада.
Прыстала ангіна,
А потым адзёр,
Чуць-чуць з дыфтэрыту
Міхась не памёр.
Забіла дыханне
І горла і нос,
Ой колькі пакуты
Міхась перанёс!
Ды ўсё-ж далі рады
Яму дактары—
Вакцыну ўлівалі
Не менш разоў тры.

Каб не вакцына,
Памёр-бы хлапчына.
І дні і нядзелі
Ляжаў у пасцелі
Слабенькі,
Худзенькі
Малы Міхасёк,
Як падкошаны той васілёк.
І высах жа бедны!
А тварык стаў бледны,
Празрысты, бы з воску.
Доктар дзіцячы
Лячэнне прызначыў—
Адправіць Міхáся на вёску.
Павеграм гаючым
І сонцам бліскучым
Міхасевы сілы ўзмацніць.
На ўлонні прыроды
Такія прыгоды,
Што горад іх нават не сніць.
Аб гэтых прыгодах якраз
І павядзецца тут сказ.

III.

Дзе-ж Міхась знайшоў прыпынак
І свой летні адпачынак?
Адкажу вам за Міхáся:
У пасёлку пры калгасе.





І мясцінка самавіта!
Тут шумела морам жыта,
А ячмень, густы, зялёны,
Адбіваў усім паклоны:
Ветру, сонцу, дробным пташкам
І кузуркам і букашкам,
Мілым дзеткам Насці, Стасю,
Ну, і нашаму Міхáсю.
Для Міхáся тут выгоды,
Тут сады і агароды,
Дзе так пышна цвітуць макі
І дзіцячыя прысмакі:
Морква, рэпа спакусная,
Рэдка хто іх абмінае,
І Міхась не раз украдкам
Завітае к гэтым градкам.
А якія тут пясочкі!
Проста цешаць яны вочкі,
І, здаецца, клічуць самі:
„Пагуляй, Міхаська, з намі!"
Ну, як тут не пагуляць,
Не пабегаць мінут пяць,
Ды чаму не разгарнуцца
Ды ў пяску не скачануцца?
Бегаў тут Міхась, гуляў,
Ды з пясочкам размаўляў.
Не,—цікавая мясцінка:
Што ні крок, то ўсё навінка
І для вока і для вуха,
Ты-ж глядзі сабе ды слухай.

Прыглядайся ды гуляй,
А дзе трэба памагай.
Унь ускрай сядзібы
Конь паўзе сталёвы,
Рэжа лусты-скібы,
Хлебу тчэ асновы,
Поўніць шумам долы,
Дужы ды імклівы.
Ногі яго—колы,
Дым заместа грывы.
Вось які ён воін!
Адгадайце-ж хто ён?

Дзесь у лесе звонка
Граюць-трубяць трубы.
Рух, жыццё, гамонка,—
Падзівіцца люба!
Тут Міха́сю воля,
Тут прастор шырокі.
Любіць-жа ён болей
Рэчку і затокі.

IV.

Талька—слаўная рачушка!
Грунт яе пяшчаны.
Бераг мяккі, як падушка,
Дзірваном засланы.
Луг квяцісты па ўзбярэжжы,
А трава, як лава!
Па грудках дубы, як вежы—
Паглядзець цікава!
А буслоў тых і не злічыш—
Цэлыя брыгады!
І такія іх абліччы,
Бы вядуць нарады
Тут і чаплі, гусі, качкі,
І сіваваронкі...
Колькі руху і гарачкі;
Спеву і гамонкі!
А звярніце вашы вочы
Вось у гэту Тальку:
Зачаруе каго хочаш—
Лёню і Натальку.















Тут убачыце вы
Свет вялікі, жывы
І дзіўны таксама.
Асабліва вось тут,
Калі ўзыйдзеш на груд
І зірнеш на яму.
Гэта яма—ой, глыб!
Ну, а рыб-жа тут, рыб!
Процьма незлічонна!
Гэту яму, сказаць,
Азярком лепш назваць
Па яе разгону.
А як выйдуць ляшчы,
Хоць у ладкі пляшчы—
Проста, ну, як плашкі
Шчупакі, як ваўкі,
І іх звычай такі
І ўсе іх замашкі:
Нярухома ў траве
Па гадзіне, па дзве
Тояцца пражоры!
Бойся, язь, шчупака!
Лешч не дай зевака,
А то будзе гора!
У такой глыбіні
Ёсць язі, акуні,
Голаватні, плоткі.
А кялбоў і яршоў,
І другіх малышоў
Не злічыць на соткі.
А як бухне тут сом,
Страсянецца кругом,
Ну, ўся азярына!
Вадзяныя кругі
Ліжуць, б'юць берагі,
Сом, відаць, махіна!

І страх забірае Міха́ся
І трошкі цікавасць, вядома:
Вось кінуць-бы бомбаю ў сома,
Калі гэты сом не папасе!

*Працяг будзе.*



Л. Н. ТОЛСТОЙ

# ЧАРАПАХА



Адзін раз я пайшоў з Мільтонам на паляванне. Каля лесу ён пачаў шукаць, выцягнуўшы хвост, падняўшы вушы, і стаў прынюхвацца.

Я падрыхтаваў стрэльбу і пайшоў за ім. Я думаў, што ён шукае курапатку, фазана ці зайца. Але Мільтон не пайшоў у лес, а ў поле. Я ішоў за ім і глядзеў уперад. Раптам я ўбачыў тое, што ён шукаў. Спераду перад ім была невялікая чарапаха, велічынёю з шапку. Голая цёмна-шэрая галава на доўгай шыі была выцягнута. Чарапаха шырока перабірала голымі лапамі, а спіна яе ўся была пакрыта карою.

Калі яна ўбачыла сабаку, дык схавала ногі і галаву і апусцілася на траву так, што відаць была толькі адна шкарлупа.

Мільтон схапіў яе і стаў грызці, але не мог пракусіць яе, бо ў чарапахі на жываце такая-ж шкарлупа, як і на спіне. Толькі спераду, ззаду і з бакоў ёсць шчыліны, кудой яна высоўвае галаву, ногі і хвост.

Я адабраў чарапаху ў Мільтона і разгледзеў, як у яе разрысавана спіна і якая шкарлупа і як яна туды хаваецца.

Калі трымаеш яе ў руках і глядзіш пад шкарлупу, дык толькі ўнутры, як у падвале, відаць штосці чорнае і жывое. Я кінуў чарапаху на траву і пайшоў далей, але Мільтон не хацеў яе пакінуць і нёс у зубах за мной

Раптам Мільтон заскавытаў і пусціў яе. Чарапаха ў яго ў роце выпусціла лапу і царапнула яму рот. Ён так узлаваўся на яе за гэта, што стаў брахаць, і зноў схапіў яе і панёс за мною. Я зноў загадаў кінуць, але Мільтон не слухаў мяне. Тады я адабраў у яго чарапаху і кінуў. Але ён не пакінуў яе. Ён стаў хутка перабіраць лапамі каля яе, капаць яму. І калі выкапаў яму, дык лапамі скінуў у яму чарапаху і закапаў зямлёю.



Чарапахі жывуць і на зямлі і ў вадзе, як вужы жабы-лягушкі. Дзяцей яны выводзяць яйцамі. Яйца кладуць на зямлі, не выседжваюць іх, а яйца самі, як рыбная ікра лопаюцца і выводзяцца чарапахі. Чарапахі бываюць маленькія, не большыя за сподачак і вялікія, у тры аршыны даўжыні і вагою дваццаць пудоў. Вялікія чарапахі жывуць у морах.

Адна чарапаха вясною кладзе сотні яец. Шкарлупа чарапахі—гэта яе рэбры. Толькі ў людзей і ў другіх жывёл рэбры бываюць кожная асобна, а ў чарапахі яны зрасліся ў шкарлупу. Галоўнае-ж тое, што ва ўсіх жывёл рэбры бываюць унутры, пад мясам, а ў чарапах рэбры зверху, а мяса пад імі.




Верш Т. КЛЯШТОРНАГА
Малюнкі Е. САМАТЫІ

У лясах ад снегу бела,
Бела скрозь!
Скача зайка здубянелы—
Ой, мароз!

Па дарогах едуць людзі: —
„Ну й мароз!“.
Воўк галодны ў лесе блудзіць—
Ой, мароз!

А мядзведзь пра ўсё забыўся—
Што яму?
У бярлогу ён зарыўся
На зіму.

Яму цёпла, як у хаце,
Сняцца сны.
У бярлозе будзе спаць ён
Да вясны.

* * *

Воўк на зайцаў след натрапіў,
Ой, на след!..
Пападзецца зайка ў лапы—
На абед.

Зайка шэранькі ў трывозе
Доўга там
Грэўся, тупаў па марозе
І пристаў.

Ён у куст залез лахматы,
Задрамаў,
Бо сваёй у зайца хаты
Век няма.

А тым часам воўк праведаў
Зайцаў куст,
Да яго ён трапіў следам
Па сняжку.



Ён аж высалапіў з рота
Злы язык...
Дзе-ж той зайка?
зайка дзе той?
Зайка знік!

Паміж воўчых ног і хлуду
З усіх сіл
Драпануў ён з перапуду
У кусты.

Дай-жа ходу, зайка шэры,
Дай яшчэ!
Мчыцца воўк, як ачмурэлы—
Не ўцячэш!

Даганяе воўк, здаецца,
Ой, бяда!
Дзе-ж тут зайку, зайку дзецца?
Ой, бяда!

Бачыць зайка—норка быццам
У снягу,
Нейкі пар з яе клубіцца—
У-гу-гу!..

З перапуду ў горле горка,
Як тут быць?
Зайка скок у тую норку,—
Што-ж рабіць?!

Знік у норцы зайка спрытны
З галавой...
Ды штось цёплае ў нары той...
Страшна, ой!

Нехта там ляжыць, як глыба,
Стаў глядзець:
Ажно гэта перад ім быў
Сам мядзведзь!

Уцякаць—там воўк напэўна...
Што-ж рабіць?
Тут таксама звер страшэнны,
Але спіць...

Страшна зайцу... Збіўся з толку...
Страх расце.
Воўк раз'ятраны на норку
Наляцеў.

Ён вачыма бліснуў гнеўна...
Будзе кроў!..
Не ўцячы тут зайку, пэўна,
Ад зубоў...

Задрыжэлі ў воўка ногі,
Страх узяў—
Перад ім мядзведзь з бярлогі
Вылязаў!

Воўк і зубы не ашчэрыў,
Як мядзведзь
Падабраў яго пад чэраў—
Воўку смерць!

Зайка-ж—скок! Тады з бярлогі—
Лататы,
У яго адны дарогі—
У кусты.

У лясах ад снегу бела,
Бела скрозь.
Скача зайка здубянелы—
Ой, мароз!



Апавяданне Васіля Каваля
Малюнкі А. Шахрая

# Санька сігналіст



I.

У нашым ударным палку было адзінаццаць маленькіх чырвонаармейцаў—выхаванцаў. Служылі яны ў музычнай камандзе. Вучыліся на медзяных трубах па нотах іграць песні і паходныя маршы.

Вясною ваенком прывёў у казарму дванаццатага.

Яму было год чатырнаццаць. Быў ён худзенькі, невялічкі і спрытны, як лісіца. Ён стаяў сярод казармы—замурзаны, у вялікіх чаравіках на босую нагу, у залатанай шэрай куртачцы.

А навокал у казарме была гэтакая чыстата і ўзорны парадак. У пірамідзе стаялі новенькія вінтоўкі, кулямёты. А на белых сценах было многа плакатаў і партрэтаў.

Хлапчука абкружылі рослыя, плячыстыя чырвонаармейцы і ветліва ўсміхаліся. Вочы ў хлапчука блішчэлі з-пад крутога ілба...

— А ў вас тут до-обра!—здзівіўся ён і, махнуўшы галавою на партрэты, прагаварыў:—А я іх усіх ведаю... Вось гэта, што на кані—Варашылаў, а гэты—з вялікімі вусамі і ромбамі—Будзённы.

— Глядзі ты! А як-жа цябе зваць?

— Завуць—Санька, а па прозвішчу—Шпак... Хачу навучыцца іграць на клярнэце і страляць з кулямёта... Ух, як люблю!..

Наш старшына роты Сёмачкін неяк адразу палюбіў Саньку. У той-жа дзень ён звадзіў Саньку ў лазню. Спачатку пастрыг яго, а потым прымусіў добра вымыцца і нават, пасадзіўшы на палок, парыў венікам, прыгаварываючы:

— Так, так, Санька... Ну, і шчуплы-ж ты! Варочайся, Санька!.. Не прывык ты, відаць, да чыстаты. Вось я цябе так адцёпаю, што будзеш ты цяпер чыстым, як шкло.

— Го-го-го!—галёкаў ад задаволенасці Санька ў густой пары і расказваў, як быў бяспрытульным, як „падарожнічаў“ пад паравозамі, колькі бачыў вялікіх гарадоў...

— Нічога, нічога, Санька... Быў ты беспрытульным, а цяпер будзеш байцом. Толькі, глядзі—старайся: навучышся і на клярнэце іграць, і з кулямёта страляць...

Памыўшыся, Санька адзеў такую беласнежную сарочку, якой ён, мусіць, зроду не насіў. Старшына Сёмачкін дапамог Саньку адзець новыя боты, новую шынель і новенькі шлём с чырвонай зоркай.

Санька доўга круціўся на аднэй назе перад люстрам і сам сабе падміргваў: „от які ты стаў, Санька! Ніхто цяпер не спазнае цябе з дзіцячага дома“.

І Санька стаў жыць у музычнай камандзе. Пражыў Санька некалькі дзён, але аднаго разу пад вечар—знік...

Яго многа шукалі і—не знайшлі. Але праз дзесяць дзён Санька сам з'явіўся да ваенкома—у запэцканай шынелі, нямыты і сумны.

— Я прышоў, таварыш камісар...

— А чаго ўцякаў? Дзе быў?..—сурова запытаў ваенком.



— Я... — заікаючыся прагаварыў Санька,—ездзіў на сваю радзіму і анікога там не знайшоў... Чэснае слова, больш не буду ўцякаць!

— Мы адправім цябе назад у дзетдом...

Санька спахмурнеў. Але ваенком сказаў так сабе, Саньку не адправілі—ён застаўся ў музычнай камандзе.



## II.

Наша кулямётная рота ўлетку часта хадзіла ў паходы на многа кілометраў. Сігналістам у нас заўсёды быў Санька.

За гэты час дружба паміж Санькам і старшыною Сёмачкіным стала яшчэ дружней.

Аднойчы мы былі на стрэльбішчы. На вялікім гладкім полі стаялі мішэні—супраціўнік з кулямётам і загадкавай лічбай на пагонах „37“.

— Пачынаем стральбу,—скамандваў камроты,—першае аддзяленне, на лінію агню—шагам—арш!

Санька падаў сігнал: — Тру-р-ру...

— Агонь!

Засакаталі кулямёты, разрываючы гулам паветра, заспявалі кулі, узрываючы пыл і пясок каля мішэні.

Санька стаяў і напружана сачыў за стральбою. Камроты на фанернай дошцы адзначаў крэйдаю лепшыя паказальнікі стральбы.

— Санька, прайграў ты спаборніцтва,— жартуючы сказаў Сёмачкін.—Я стрэліў на выдатна...

— Ну, мы яшчэ паглядзім... — упэўнена адказаў Санька.—Адна бяда, што камроты не дасць мне стрэліць...

— А ты папрасі,—параіў старшына.

Санька адважыўся, падышоў да камроты і, узяўшы пад казырок, голасна сказаў:

— Таварыш камроты, дазвольце мне стрэліць з кулямёта. Я са старшыною заключыў дагавор, дык, ведаеце, непрыемна зрываць спаборніцтва...

— Нельга,—строга сказаў камроты, а потым добрадушна дадаў: — Ды ты-ж і страляць не ўмееш. Для таго, каб добра страляць, трэба добра ведаць кулямёт...

— Кулямёт—я ведаю... Чэснае слова...— засыпаў ад радасці Санька словамі, як з кулямёта. Хочаце, я вам раскажу ўсё папарадку...

І Санька зноў засыпаў словамі:

— Вось гэта—руля... Гэта—замок. Стужку з патронамі заражаюць вось так... А потым ставяць цэлік і прыцэл. Націскаюць на падважнікі і—агонь!..

Камроты здзівіўся, адкуль Санька ўсё гэта ведае.

— А я—вывучаў кулямёт, я люблю яго. Я таксама хачу стаць кулямётнікам...—растлумачыў Санька.

Тады камроты загадаў прынесці на спробу пяць патронаў. Старшына Сёмачкін дапамог зарадзіць. Санька, па камандзе, лёг і, спяшаючыся, ставіў прыцэл.

— Не спяшайся! Не хвалюйся!—сказаў камроты.

— Не падкачай, Санька, — пашэптвалі чырвонаармейцы, — цэлься супраціўніку ў грудзі, пад самае сэрца...

Санька ўжо спакайней навёў чорную мушку пад мішэнь. Ён не помніў, як засакатаў кулямёт і за мішэнямі пасыпаўся пясок.

Санька першым прыбег да мішэняў, якія стаялі на адлегласці 400 метраў. На пяці мішэнях было тры чорных малюсенькіх кружочкі ад куль.

— На першы раз добра... Сапраўды добра... У Санькі зоркае вока і цвёрдая рука. З цябе, Санька, будзе слаўны кулямётнік.

— Я-ж гаварыў, таварыш камандзір, што я люблю кулямёт і ведаю яго. А стрэліў я горш за старшыну таму, што я страляў першы раз.

Калі рота выстраілася ў шарэнгу, наш камандзір прачытаў прозвішчы лепшых стралкоў. Першым стаяла прозвішча старшыны.

— За добрае ўсваенне кулямёта,—чотка выгукнуў камроты, — сігналісту таварышу Шпаку абвяшчаю падзяку...

Санька заірдзеўся, як макаў цвет. А кругом, на полі, свяціла сонца і даль была ясная, блакітная. Чамусці ўспомнілася Саньку ўсё сваё жыццё, перад вачыма прайшоў год у казарме, і Санька падумаў, што цяпер ніколі не вернецца ўжо да таго, чым быў раней...

Чырвонаармейцы ласкава глядзелі на Саньку, бо сягоння Санька быў героем.



# ЯК РОС ПАРАВОЗ



1. Усюды прабеглі, кругом падперазалі зямлю сталёвыя, моцныя рэйкі. Імчацца па іх цягнікі, за тысячы кілометраў перавозяць яны людзей, перавозяць цяжкія грузы.

А не так даўно—трохі больш за сотню гадоў таму назад—па першай чыгунцы ездзілі так: на на адным возе-вагоне людзі, а на другім разам з імі—жывёлы. Везлі гэтых пасажыраў коні. Везлі памалу—па 5-8 кілометраў у гадзіну.



2. Чалавек ніколі не спыняўся і не спыняецца на дасягнутым.

„Раз ёсць чыгунка, дык чаму не прыдумаць паравоз, які вазіў-бы людзей па сталёвых рэйках скарэй, чым коні?“ Такое пытанне паставілі сабе многія вынаходцы.

І першы паравоз быў прыдуманы у Англіі Георгам Стэфенсонам. Гэта быў невялічкі паравоз, зусім не падобны на цяперашнія. Праходзіў ён да 20 кілометраў у гадзіну. Зроблены ён быў так, што пара з яго выходзіла з вялікім свістам, наводзячы жах на людзей, на ўсе жывыя стварэнні.

3. Ідуць гады. Паравоз усё расце і расце. Старыя, слабейшыя паравозы заменьваюцца новымі, больш магутнымі.

Цяпер ёсць паравозы, што прабягаюць да 150 кілометраў у гадзіну. Возяць яны да 1000 тон грузаў, а першы паравоз мог везлі толькі да 90 тон.






Апавяданне А. Якімовіча
Малюнкі Тіхановіча

Нішто так, здавалася, не цікавіла Вову ў лагерах, як трусікі.

Праўда, было тут для акцябрат не мала і розных іншых забаў.

Прыгожыя стройныя сосны раслі навокал на высокім узгорку. Спакойнымі, нібы задуменнымі, стаялі яны ў ціхую пагоду. А як толькі дыхне з палёў вецярок — адразу гаманлівы шум прабяжыць між зялёных кучаравых верхавін. Мацней зарыпяць скрыпучыя сосны: і-гі—і-гі—гу...

І праз увесь дзень не змаўкаюць тут спевы птушак. Але найбольш птушак было за лесам, на лузе. Кожны дзень бегалі туды акцябрата. Прысадзістыя густыя кусты лазняку і вольхі, зрэдку танклявыя белыя бярозкі, упрыгожвалі сабою зялёны мурожны луг. Галасістыя шпакі, нібы раі пчол, абсыпалі кусты. І якія цікавыя птушкі, гэтыя шпакі: заўсёды аб нечым сварацца. Такі крык падымаюць, аж грыміць навокал ад іхняга шчэбету. А варта толькі каму з акцябрат узмахнуць рукой—як шпакі чорнаю хмараю мігам узаўюцца ў высь. Здаецца, нібы зямля ўзарвалася,—гэтак зашуміць паветра.

Так, многа цікавага было ў гэтай прыгожай мясціне летам!

Але клетка з трусікамі для Вовы была найцікавейшай. І ўсе дзеці любілі сваіх востравухіх рахманых „лагернікаў“.

Трусікі прыехалі сюды разам з акцябратамі з горада. Важатая Надзя, начальнік лагера, знарок закупіла іх, каб гадаваць тут. „Кожны акцябронак павінен навучыцца даглядаць трусікаў“,—казала яна.

Трусікі былі белыя, як снег. „Лагерныя белачкі“—так з першых-жа дзён празвалі іх акцябрата. Жылі „белачкі“ ў раскошнай чыстай клетцы каля хлява, за шагоў пятнаццаць ад дома. І часта на мураўцы рассаджваліся акцябрата, а важатая расказвала ім пра трусікаў.

Але Вову заўсёды рупіла адно—дастаць „белачак“ з клеткі, патрымаць на руках. І навошта толькі зрабілі гэтую клетку? Няхай-бы лепш бегалі трусікі па двары, па лесе. Тады кожны мог-бы злавіць іх, пагладзіць па мяккай пуховай шэрсці, уволю пазабаўляцца!

Аднаго разу Вова сказаў быў важатай:

— Я хачу дастаць трусікаў...

— Няможна, Вова,—адказала яна.—Трусікі не любяць, каб іх на руках трымалі.

„Ну і ганарыстыя-ж якія, гэтыя трусікі!“ думаў Вова. „А можа маніць важатая? І скарэй, што маніць“,—разважаў ён.

Пра такія здагадкі Вова расказаў сваім сябрам—Спартаку і Валодзю. Ім таксама не падабалася клетка!

— У нас ёсць кошка,—казаў Вова.—І мама заўсёды крычыць на мяне, каб я не браў яе на рукі. А трусік-жа не кошка: ён нават не кусаецца. Дык навошта-ж іх заўсёды трымаць у клетцы?

І Вова не траціў надзеі—хоць раз, а дастаць трусікаў з клеткі!

II.

Хутка прамчаўся месяц у лагерах. Назаўтра прызначаны быў і ад'езд. А Вову ўсё яшчэ так і не ўдалося патрымаць трусікаў на руках. „Трэба спяшацца", парашыў ён. І ў той-жа дзень, пасля сігнала на „мёртвую гадзіну", Вова шапнуў сваім сябрам:

— Хадзем, толькі, каб не ўбачылі...

Праз хвіліну клетка была адкрыта. Нарэшце такі трусікі ў руках!

Вова ўзяў аднаго, моцна сціснуў яго і прытуліў да шчакі. Перапалоханы трусік затрапятаўся і вырываўся як толькі мог. Тады Вова яшчэ мацней туліў яго да сябе



— Я-ж табе нічога не зраблю, не трапячыся, дурненькі,—разгаварыўся ён з трусікам.

Але той яшчэ горш выбрыквае. А сэрца трусікава моцна-моцна тахкае, нібы малаточкам стукае хто з сярэдзіны.

Спартак і Валодзя павінны былі дзяліцца адным трусікам. І неўзабаве яны заспрачаліся.

— Дай ужо мне,—кажа Спартак.—Ты доўга трымаеш...

— Колечкі-ж я трымаю? Ты болей трымаў...

Нацешыўшыся, Вова сказаў:

— Давайце пусцім іх на траву,—што яны рабіць будуць?

Сябры з ахвотай згадзіліся: калі так, дык і крыўды нікому з іх не будзе!

Скок-скок-скок!—паскакалі шустрыя трусікі адзін за другім і—проста ў хлеў. Хлопцы нават аглянуцца не паспелі.

Пабеглі ў хлеў, глядзяць—нібы скрозь зямлю праваліліся „белачкі".

Сталі шукаць.

— Вунь яны, вунь, за бочкаю,—першым убачыў Валодзя.

Блізка сцяны стаялі дзве бочкі з бульбай але так, што між сцяной і бочкамі была невялікая шчыліна. Вось туды і схаваліся трусікі.

— Трэба хутчэй дастаць, а то яшчэ нойдзе хто, — затурбаваўся Вова.

Толькі-ж—як дастаць? Залезці за бочку—не залезеш: шчыліна зусім вузкая. Паварушылі бочкі—цяжкія, не адцягнеш.

— Я прыдумаў,—кажа, нарэшце узрадаваны Вова.

— Ну?

— Шукайце палак.

Палак доўга шукаць не прышлося.

— А цяпер слухайце мяне,—камандуе ён.—Я буду выганяць, а вы лавіце.

Хлопцы згадзіліся. Сапраўды, лепш не прыдумаеш!

Спартак і Валодзя прыгнуліся, выставілі рукі наперад. Уважліва сочаць, стараюцца, каб нават і вокам не маргнуць.

— Гані!

Вова пастукаў сукаватай палкай у шчыліну. „Белачкі“ кінуліся ўцякаць, але наскочылі на выстаўленыя рукі, і ходу назад.

— Уцяклі, гані яшчэ!

Вову аж злосць пачала разбіраць: вось якія хітруны гэтыя трусікі! І ён яшчэ мацней загрукаў палкай. Зноў выскачыў трусік, але ўжо толькі адзін. Спартак хапіў яго за вуха, ды не ўтрымаў: трусік уцёк назад.

Вова нават упацеў ад такой работы, расчырванеўся і пыхкаў, як самавар. Але трэці раз трусікі не паказваліся, колькі не ганяў іх Вова. А яны-ж там: чуваць, як палка стукаецца аб мяккую шэрсць. „Мусіць, прытаіліся“, думае ён.

За дзвярыма загаманілі дзеці.

— Уцякайма,—шапнуў перапалоханы Вова.

— Што вы тут робіце? Дзе „белачкі“?— стрэлі іх дзеці.

Сябры густа пачырванелі, апусцілі галовы. Прышла і важатая. Глянула на клетку— пустая.

— Дзе-ж трусікі, дзеці?

— Яны там... — паказаў Вова на хлеў.— Выскачылі...

Падышла важатая да бочак. Адставіла іх. Глядзяць усе — сапраўды тут. Але... што-ж гэта такое? Адзін зусім мёртвы, а другі яшчэ трапечацца...

Вова глянуў на любімых сваіх „лагерных белачак“, падняў кулак да вачэй і моцна заплакаў.



Гульня

# Тэлефон нямых

*Рабята, вы ўсе ведаеце, што такое тэлефон. Вы ведаеце, што па тэлефоне можна гаварыць адзін з другім за сотні кілометраў.*

*А ёсць яшчэ і другія тэлефоны, як напрыклад „тэлефон нямых“. Вось такую гульню—„тэлефон нямых“ мы і друкуем для вас.*

## Як гуляць

Усе ўдзельнікі садзяцца ў рад. Крайні збоку (кіраўнік гульні) шэпча на вуха свайму суседу якое-небудзь слова. Слова гэта павінна азначаць пэўную работу, рух. Кіраўнік наглядае за ходам перадачы.

Пачуўшы слова ад кіраўніка, сусед перадае яго ўжо свайму суседу рухамі рук (гаварыць не можна). Сусед, як зразумеў гэта слова, так і перадае далей трэцяму.

Калі дойдзе так да канца, дык кіраўнік пытае апошняга, што ён рабіў. Той адказвае словамі, потым гавораць і астатнія па чарзе—якое слова перадавалі адзін другому. Калі ўсе правільна перадалі, дык кіраўнік зменьваецца другім, а калі не, дык ён зноў пачынае спачатку, перадае ўжо другое слова (можна з другога канца).

Многія думаюць, што перадаць слова рухам не цяжка, а на справе гэта не так выходзіць. Напрыклад, кіраўнік сказаў словы: „чытай кнігу“. Першы ўдзельнік зложыў далоні і нібы чытае кнігу. Другі падумаў, што першы разглядаў сябе ў люстэрку і паказвае гэта суседу, але робіць яшчэ ухмылку. Трэці падумаў, што сусед паказваў з сябе малпу, перадражнівае яе і перадае далей. І калі перадача даходзіць да апошняга ўдзельніка, дык значэнне першага слова можа зусім змяніцца.

# ВЫПІСАЛІ 100 ЭКЗЕМПЛЯРАЎ

„ІСКРЫ ІЛЬІЧА“ вельмі цікавая часопісь. Яна з'яўляецца нашым дапаможнікам у вучобе і рабоце.

Акцябрата і вучні нашай Крупскай ШКМ выпісалі на студзень 100 экз. „Іскраў Ільіча“. Сярод вучняў была праведзена шырокая растлумачальная работа аб часопісі—адсюль і добрыя вынікі. Нам было заданне выпісаць 40 экз., а мы выпісалі ў два з палавінаю разы больш.

Сваю часопісь мы скарыстоўваем на нашых ранішніках, на зборах акцябрацкіх зорачак.

М. КАЛАЧЫНСКІ.



Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

Цана 30 кап.



# ПРА ЛЫЖНІКАЎ-ВЫНАХОДЦАЎ

Малюнкі К. Малевіча
Вершы А. Дзеркача





1. — Дай змайструем ветрасані,—
Кажа Янку Харытон.
— Нам патрэбны толькі лыжы,
Табурэт і парасон.

2. Змайстравалі ў дзве мінуты!
Янка сеў на табурэт.
Харытон-жа пхне у спіну,
Хоча даць разгон, як след.





3. Вецер вее. Вецер вые...
Дзме у парус-парасон—
Пакацілі вынаходцы
І сабака наўздагон.

4. Раптам—гоп! і катастрофа:
Сані трапілі на сук...
Харытон—у гурбу носам!
У паветры мчыць Янук.





5. Але хутка „лётчык" Янка
Скокнуў проста ў парасон!
І стаіць у парасоне
Дагары нагамі ён.

6. Тут яму на дапамогу
Усхапіўся Харытон.
І сабака злосна брэша
На няшчасны парасон.

*А што было далей—чытайце ў № 2.*

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА". Радактар А. Якімовіч

Друкарня імя Сталіна Заказ № 84, 13935 экз. Менгарліт № 582.